ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 30 (111) Аўторак, 1 жніўня 2000 г. ● У розніцу кошт свабодны

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### ЗАРОБКІ РАСТУЦЬ, А ЛЮДЗІ БЯДНЕЮЦЬ

За мінулы месяц сярэдняя (налічаная, а не атрыманая!) зарплата па краіне ўзрасла на 7 працэнтаў і дасягнула 57596 рублёў. Ды якая з таго карысць, калі цэны на ўсе тавары першай неабходнасці настолькі падскочылі, што на гэтыя ўзросшыя, з дазволу сказаць, заробкі, купіш значна менш, чым на зарплату папярэдняга месяца. Ды яшчэ пакуль гэтую "налічаную" атрымаеш ва ўласныя рукі, дык яе напалову з'есць інфляцыя і на яе ты ўжо купіш шыш. І што ў нас за дзяржава? Заробкі растуць, а мы бяднеем... Куды вядуць нас нашы правадыры?

— У жабрацтва, у бездань!

**Язэп КАРАСЁЎ.**

### АГАРОДНЫ ЗЛОДЗЕЙ ЗАСТРЭЛЕНЫ

Пенсіянеру са жлобінскага раёну рабілася, напэўна, кожны раз не па сабе, калі з яго агарода знікала бульба. І ён вырашыў падпільнаваць злодзея: зрабіў ноччу засаду з паляўнічым ружжом. Двое злодзеяў, спадзяючыся, што зноў беспакарана накапаюць у хворага дзеда бульбы, залезлі ў агарод і пачалі сваю чорную справу. І дзед не вытрымаў, стрэліў у аднаго з іх. Той упаў, а другі даў драла і нічога нікому не сказаў пра здарэнне. Труп злодзея, жыхара суседняй вёскі, апынуўся ў лесе і выпадкова быў знойдзены праз некалькі дзён ужо ў стадыі гніласнага разлажэння. У яго целе была знойдзена карцеч. Міліцыі нескладана было знайсці забойцу.

У Гомельскім райаддзеле міліцыі ў сувязі са здарэннем цяпер арганізаваны атрад па барацьбе з крадзяжамі ў садова-агародных таварыствах.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### ЁДАВАЯ МІНЕРАЛКА

У Беларусі засвоены выпуск узбагачанай ёдам мінеральнай вады "Ёдная-Дарыда". Яе вытворцам стала мінская вытворча-камерцыйная фірма "Дарыда". У аснову гэтай мінералкі быў пакладзены чэшскі ёдны канцэнтрат: на 1 тысячу літраў яго затрачваецца каля 300 грамаў. "Ёдная-Дарыда" мае прыемны смак, добра падыходзіць для штодзённага спажывання і, галоўнае, з'яўляецца эфектыўным прафілактычным сродкам ёднага дэфіцыту.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### ПЯЦІМІЛЬЁННЫЯ ФАЛЬШЫЎКІ

Будзьце пільнымі, людзі! Калі ўбачыце купюры ў 5 мільёнаў беларускіх рублёў серыі АК 9301302-9301317 — тэлефануйце па нумару 229-47-23 у Мінску. Фальшывамачэтчыкі падрабляюць гэтыя купюры. Са студзеня гэтага года ў Мінску выяўлены 148 фактаў збыту падробленых беларускіх рублёў.

Несапраўдныя грашовыя знакі не маюць ахоўных валокнаў, малюнак на іх няякасны, а часам і зусім расплывісты.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### БАТЭ ГУЛЯЕ СА ШВЕДАМІ

26 ліпеня ў шведскім гарадку Хельсінборгу на стадыёне "Алімпія" мінулагодні чэмпіён Беларусі БАТЭ правёў першую сустрэчу другога кваліфікацыйнага раунда Лігі чэмпіёнаў. Матч ў адказ адбудзецца заўтра (2 жніўня) ў Мінску. Судзіць сустрэчу будзе украінскі арбітр Ігар Ішчанка.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### *Адным сказам*

● *64 працэнты беспрацоўных у Беларусі — жанчыны, з якіх 48 працэнтаў самага працаздольнага ўзросту — 20-34 гады.*

● *Па ацэнках спецыялістаў, у сучаснай вайне каля 50 працэнтаў страт адбываецца ў выніку баявых псіхічных траўмаў.*

● *У сістэме адукацыі краіны заняты 217 тысяч чалавек.*

## Чаму 10 дзён не выходзіла газета?

Лічу сваім абавязкам падрабязна патлумачыць сітуацыю з няўыхадам па графіку газеты "Беларускі Усход".

Рэдакцыя функцыяніруе ў вельмі складаных умовах. Яна размешчана ў невялікай вёсачцы ў 8 км ад райцэнтра — Хоцімска. Тэлефонная сувязь у рэдакцыі надзвычай кепская. У Хоцімскім раёне наогул сувязь нікчэмная. Гэта забыты Богам і уладамі край. Аўтобус праз вёску ў Хоцімск ходзіць усяго тры разы за рабочы тыдзень. Прычым у вёсцы Маркаўка часта наогул не астанаўліваецца і не бярэ пасажыраў, бо перапоўнены. Пошта ў вёску прыходзіць не кожны дзень. У рэдакцыі апрача тэлефона, які працуе з рук вон дрэнна, ніякіх сродкаў сувязі няма. Мы друкуем матэрыялы для газеты на звычайнай пішучай машынцы і адпраўляем іх у абласную друкарню ў Магілёў для набора і вёрсткі газеты. Плоцім за гэта вялікія грошы друкарні. Рэдакцыя заўсёды своечасова дасылае матэрыялы для чарговага нумару газеты выпускаючаму рэдактару ў г. Магілёў. Тэкст N 28 газеты, які павінен быў выйсці 15 ліпеня, быў дасланы ў друкарню яшчэ 10 ліпеня. Але газету друкарня не выпусціла ні 15, ні нават праз тыдзень, 22 ліпеня. Чакаю газету, бо і сам яе выпісваю для рэдакцыйнай падшыўкі, а яе няма. А тут штодзённа дажджы, а ў дажджлівае надвор'е ў нас тэлефон працуе кепска, ці зусім не працуе, і мне ніяк не выпадала звязацца з друкарняй. І у панядзелак, 27 ліпеня, я вымушаны быў ехаць сам у Магілёў, каб разабрацца з выпускам газеты (праезд туды і назад каштуе больш трох мільёнаў рублёў!). Прыехаў, а газету ўжо аддрукавалі за аўторак, 25 ліпеня, з праграмай тэлебачання той, якую трэба было друкаваць 15 ліпеня. Уявіце сабе мой стан, калі я гэта ўбачыў! Але змяніць ужо нічога было нельга. Аддрукаваны былі ўжо ўсе 5479 асобнікаў.

Не паспеў я вярнуцца ў сваю вёску, у рэдакцыю, як тэлефон рэдакцыйны стаў разрывацца ад званкоў. Тэлефануюць падпісчыкі, тэлефануюць паштальёны... Вінавацяць рэдакцыю... Скардзяцца, што плоцяць такія грошы за газету рэдакцыі, а яна...

Паважаныя падпісчыкі! З тых грошай рэдакцыі не трапляе ні капейкі. Іх не хапае на аплату паслуг пошты і друкарні. Рэдакцыя яшчэ шукае спонсараў, якія б пакрылі гэты недахоп. Наша газета для маламаёмных, для тых, хто не ў стане выпісваць дарагія дзяржаўныя газеты. Мы спецыяльна зрабілі яе самай таннай у рэспубліцы, каб яна была даступнай самым бедным людзям.

Чаму наша газета танная? Таму што ў нашай рэдакцыі працуюць энтузіясты, яны працуюць не за грошы, як у дзяржаўных газетах, а на грамадскіх пачатках. Ніхто з тых, хто піша ў нашу газету, не атрымлівае ні зарплаты, ні ганарару. Вось чаму наша газета самая танная.

Вы пагледзіце, які кошт дзяржаўных газет. Іх не кожны ў стане выпісаць.

Наша ж рэдакцыя бярэ з вас плату меншую, чым газета каштуе на самай справе. Галоўны рэдактар і ўсе аўтары нашай газеты працуюць для вас бясплатна, каб вы мелі што пачытаць і праграму тэлебачання па даступнай цане. Калектыў робіць газету не для сябе на карысць, а для вас, паважаныя.

Дазвольце вас супакоіць. Рэдакцыя кампенсуе падпісчыкам недаатрыманыя нумары газеты. У ліпені па графіку іх вы павінны былі атрымаць 5. Атрымалі 4. Сёння вы атрымалі па-за графікам яшчэ адзін нумар.

І хоць у каго на жнівень і не выпісаны "Беларускі Усход", вы патрабуйце ў паштальёнаў сёняшні нумар, бо мы аддрукавалі столькі асобнікаў, каб хапіла іх усім падпісчыкам на ліпень месяц.

Ну а далей выпуск газеты пойдзе па графіку. У сувязі з тым, што мы зноў пераносім выпуск газеты з суботы на чацвер, тыя падпісчыкі, у якіх аформлена падпіска на жнівень, атрымаюць у гэтым месяцы яшчэ па 5 нумароў "Беларускага Усходу".

Выпісваць жа нашу газету надалей, ці не — гэта ваша асабістая справа.

**З павагай да падпісчыкаў Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**



*Іван ЛАПО*

## Дарожныя нататкі

**Вось, урэшце, і закончылася наша вучоба. Журналістаў з розных абласцей рэспублікі. А дакладней кажучы — удзел у творчым семінары "Сучасная рэгіянальная журналістыка", які праходзіў у два этапы, у Беларусі і Швецыі, па праграме развіцця ААН "Развіццё СМІ ў Рэспубліцы Беларусь".**

**Ён быў арганізаваны Швецкім інстытутам павышэння кваліфікацыі журналістаў сумесна з працоўным калектывам газеты "Бергслагспостен", што выходзіць у невялічкім гарадку Ліндэсберг.**

### *І з вакна аўтобуса бачна шмат*

**ШВЕЦЫЯ ВАЧЫМА БЕЛАРУСА, АБО АБ ТЫМ, ЯК ЖЫВУЦЬ ШВЕДЫ, ЯКІХ МЫ АДОЛЕЛІ СТАГОДДЗІ НАЗАД ПАД ПАЛТАВАЙ**

На заказным аўтобусе мы едзем са сваёй гасцініцы ў сталіцу краіны — Стакгольм, дзе нас чакае аэрапорт і пералёт назад, у Беларусь.

Але, што цікава — за гэтыя некалькі праведзеных у далёкім краі вікінгаў дзён дадому нас чамусьці так і не цягне. Што адчуў па сабе. Ужо прызвычаіліся. Па адным толькі засумавалі — чорным хлебе. Там звычайна ўжываюць белы.

Едучы па дарозе заўважаем там-сям абнесеныя агароджай, дзе-нідзе, звычайным калючым дротам, лясістыя ўчасткі мясцовасці — пряваю капіталістаў-уласнікаў. Часам бачны назвы камун. Але камуна — тут як бы звычайная назва тэрыторыі, а не імкненне да камуністычнага грамадства.

Па шасейнай дарозе імклівa пяцяць матацыклісты. Праўда, на ёй больш пераважае інамарак, бо ў асаблівай пашане тут аўто. На магістралі можна пабачыць аўтамашыны самых розных марак. Да асобных прычэплены вагончыкі для адпачынку. Субота. Выхадны дзень. Шведы кінуліся на адпачынак.

— Дом, машына і яхта, — такі джэнтльменскі набор шведа, — ганарліва заўважае наша надзвычай прафесійная перакладчыца Ірына Макрыдава.

### *Добры дзень, Стакгольм!*

А вось, нарэшце, і Стакгольм! Тэмпература паветра — плюс дваццаць градусаў па цэльсію. Сярэдзіна ж верасня. Нас даставіляюць у адну з шыкарных сталічных гасцініц аэрапарта "Арланда".

Для многіх з нас тут усё незвычайна. Каб патрапіць у выдзелены нумар, трэба адчыніць дзверы не звычайным ключом, як у нас прынята, а ... электроннай карткай, выдадзенай кожнаму на рукі. Каб тое святло ўключыць, тэлевізарам ці яшчэ нечым пакарыстацца, яшчэ трэба падумаць і пашукаць той уключальнік. Хутчэй за ўсё гэта будзе звычайная маленькая кнопачка альбо вялізны ўключальнік.

Не гасцініца, а цэлы гатэль. Было паспрабаваў дабрацца ў нумар на ліфце, але мяне чамусьці занесла ажно на самы верхні паверх. Гляну праз акно ўніз і, о божухна... жахнуўся. Такая вышыня! Але, ўсё абыйшлося. Гэта нехта з нашых перахапіў ініцыятыву хутчэй патрапіць у свой нумар.

Нічога не паробіш, другая краіна, другія парадкі, другое жыццё.

Кінуўшы спехам ля парогу нумара свае асабістыя рэчы — спяшым да выхаду. У нас — экскурсія! Па гораду! Раней заказаная. Праўда, за нашыя ж кроўныя сціплыя грошыкі, пераведзеныя спачатку ў амерыканскія даляры, а пасля — у швецкія кроны. Дзесьці за восем даляраў з кожнага. Ладжаная па ініцыятыве самых цікаўных і дапытлівых членаў нашае групы.

А з гасцініцы яшчэ трэба дабрацца на аўтобусе ў цэнтр горада. Добра, што аўтобусы адсюль да 18.00 ходзяць кожныя дзесяць хвілін і да 22 гадзін — кожныя пятнаццаць. Вось бы так наш грамадскі транспарт працаваў!

Пакуль ёсць час, завітаем у шматлікія магазінчыкі-кіёскі сталічнага аўтавакзала. Заўважаем, што яблыкі, апельсіны і памідоры тут каштуюць па аднолькавай цане. Па трыццаць крон за кілаграм. Гэта для нас нешта ўжо і новенькае ва цэнаўтварэнні. Толькі ў адным месцы заўважылі яблыкі і падзешавей, за 25 крон, што прыкладна роўна 3-3,5 далярам.

Нарэшце, ва ўмоўленым месцы, дачакаліся Кірсці. Так завуць нашую новую заказаную перакладчыцу. Яна яўна шведка па нацыянальнасці. Прытым някепска валодае рускай мовай. Яна акуратна прымацоўвае на грудзях сваю візітоўку экскурсавода і хуценька, толькі і паспявай за ёй, каб не адстаць і не згубіцца ў шматлюдным натоўпе, вядзе нас у стары Стакгольм.

*(Працяг на 3-й стар.)*

# Таленты нашага краю

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ СТАРОНКА

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ**

## Дык што трымае сёння нас?

Для ўсіх настане Судны час,
І ўсе прадстануць для адказу.
Тады спытаюцца у нас:
Чаму цярпелі мы абразу?
Чаму гадамі мы адно —
За усім употай назіралі
З уласнай хаты праз вакно,
Калі наш гонар зневажалі.
А перш за ўсё спытаюць тых,
Хто абяцаў служыць народу,
А ў лістападаўскія дні
Пайшоў з дыктатарам на згоду.
З іх нехта скажа: "Спрэчна ўсё...".
Хлусня! Вы бачылі і знaлі,
Што беларускае, сваё,
Вы гэтай згодай вынішчалі.
...Для ўсіх настане Судны час,
І ад адказу не схавацца.
Дык што трымае сёння нас,
Каб ўрэшце-рэшт
за розум ўзяцца?

## Пакаянне

Не вучылі мяне маліцца
Так, як продкі мае ад сахі,
Лоб хрысціць, біць паклоны,
пасціцца
І прасіць адпусціць грахі.
А вучылі мяне нябогу:
Правадыр — мудрэйшы чым Бог.
Гэта ён да шчасця дарогу
Адшукаць сапраўдную змог.
І мільёны ўзняліся, як лава,
Па камандзе на ўздыху адным.
І крычаў я з усімі: "Слава!",
Ідучы без сумненняў за ім.
Я ішоў да вялікай мэты.
У яе быў такі макіяж!
Кампазітары і паэты
Праслаўлялі мэту-міраж.
Пра Скарыну не ведаў нічога,
І пра Крыж Еўфрасінні святой.
Нас такіх у той час было многа,
Задаволеных мэтай, сабой.
І калі руйнавалі Храмы,
Назіраў спакойна за тым,
Як прылюдна глуміліся Хамы,
Насміхаючыся над святым.
Сёння каюся я за гэта,
Асуджаю сябе, што не змог
Зразумець — толькі тая мэта
Ёсць дабро, калі ў сэрцы Бог.

## Ігнасць

Смерць раўняе усіх,
хто з жыцця адыходзіць,
Пакідаючы ў спадчыну
памяць жывым.
І яна праз гады іншы раз
нас знаходзіць
Не звычайнай самотай,
а болем людскім.
Раптам успомніцца даўняе:
некалі продак
Быў пакрыўджаны моцна
суседам пры ўсіх.
І ў хмяльным ачмурэнні
ягоны нашчадак
Пазбаўляе жыцця
аднагодкаў сваіх.
...Смерць раўняе усіх,
хто з жыцця адыходзіць.
Толькі памяць па ўсіх
немагчыма зраўняць.
І нашчадкі ў вяках
успамін захаваюць
Не па чыну ў жыцці,
а па справах зямных.

**Іван ЛАПО**

## Дарога да людзей

**(АПАВЯДАННЕ)**

*(Працяг, пачатак у N 29).*

Па ўсім бачна, ужо паспелі параcтраціць тыя сіроцкія капейчыны, як гаворыцца, за адзін прысест. Хутчэй, чым той Андрэйка і даведаўся. Хаця, і то добра, што хоць зайшлі ад людскога вока.

Вярнуўся ў палату Андрэй знешне і спакойным. Але, відаць было, што быў ён крышачку ўсхваляваны. Усім праз некаторы час узрушана расказаў што і да чаго. Пра сваё незайздроснае дагэтуль жыццё-быццё.

Неяк няёмка яму было за сваю радню, а нам чамусьці — за яго. Да ўсіх прыходзяць усе сваякі як людзі. У палату. Нечага прыносяць. Тыя частуюць іншых. Як бы завядзёнка. А яму — нечага і прапанаваць.

Ды і сам стрэў іх выпдкова, на ніжнім паверсе райбальніцы, калі хадзіў праходзіць флюараграфію. Бо ўрачы паслалі. Ды, нос у нос, бы знарок, сутыкнуўся з імі. Мо, выпадкова?

"Не, жыць з імі больш не буду!",— цвёрда, уголас, каб усе пачулі, сказаў, лежачы на ложку, Андрэйка. Пануры і сярдзіты. А мо яны самі вырваліся з душы. І ўсё думаючы цяпeрака пра сябе і свой далейшы лёс. А можа мне гэта толькі падалося?

V

Дарога з дому. Якой шчымліва хвалюючай для сэрцайка яна бывае для кожнага, хто ўпершыню ідзе ў школу, альбо адпраўляецца на вучобу ў прафтэхвучылішча, паступае ў тэхнікум ці ВНУ! Або ідзе служыць у войска і гэта — зразумела. Бы нешта чалавек губляе часова. Мо сваю маленькую радзіму?

Але, калі вось за так, з-за невыноснага сямейнага жыцця прыходзіцца пакідаць родны і мілы сэрцу куточак — гэта асабліва балюча.

Ды ўсё гэта: і час доўгіх бяссонных развагг, і пошук жыццёвага выйсця —ужо мінулі для Андрэя. Цяперака ён чалавек вольны! А не заложнік чыіхсці карыслівых інтарэсаў. Няхай і тых жа братоў. Можа, што захоча, тое і рабіць! Ён жа ўжо дарослы!

"Усё! Заўтра еду ў вёску. За шмоткамі. З цёткай ужо дамовіўся. Буду жыць у яе пакуль. А там бачна будзе. Мо забяруць на службу ратную? А мо і не яшчэ? Без бацькоў жа?" Адольвалі яго сумненні: "Усялякае можа быць".

Хлапчына пакуль што быў на жыццёвым раздарожжы. Як той былінны віцязь з народнага падання, які прама пойдзе, то смерць сваю знойдзе, налева збочыць, то іншае яго напаткае.

Перад працаўладкаваннем у калгас, пра які быў зашмат наслуханы, было падаўся на цэментны завод, што ўзвялі ў суседнім райцэнтры. Некалі — вялікую будоўлю. Аж рэспубліканскага значэння. Ды, як на бяду, дарэктара завода ў той дзень не было на рабочым месцы.

Новабудоўля тая ад іхняе вёскі — зусім побач. Рукою падаць. Напрасткі, так усяго некалькі кіламетраў якіх будзе. Можна было, калі што, і на веліку на працу дакаціць. А то і на кані ці спадарожнай машыне? І гэтак жа штодня можна было на працу і з працы дабірацца. А яшчэ б лепей, калі б інтэрнат выдзеліл.

Там жа, па ўсім бачна, куды больш плацілі б. Не тое, што ў іхнім племгасе, казна якога за апошнія гады так збяднела, а сама гаспадарка так захірэла, бы які хворы чалавек схуднеў ад немачы. Што ледзь на ладан дыхала.

Звольніцца было нялёгка. Новы дырэктар гаспадаркі Лімонаў спачатку крыху, мо для понту, паўпарціўся, але ўрэшце-рэшт усё ж заяву ягоную падпісаў. Праўда, не з першага заходу.

Мо зразумеў яго бяду Віктар Мікалаевіч, як уласнага сына? А можа ўразумеў, што ўсёроўна не ўтрымае сілком таго. Маладога ды нежанатага. Сёння-заўтра — прызыўніка ў войска. Хто яго ведае?

Маладыя людзі ўпартыя. Так неўзабаве перад Андрэем паўстаў самы што ні на ёсць прастор ва працаўладкаванні. Куды хочаш, туды і ідзі — працуй. У горад ці вёску. Але вабіў больш за ўсё горад. Там і чысцей, і сытней, і парадку болей.

Тым больш, што глыбока ў хлапечае сэрца запала парада знаёмых сябрукоў: "Калі ўдасца, то ў калгас "Клімаўскі" кіруй! Гаспадарка — прыгарадная. Фінансава моцная. Там і плацяць добра, і рэгулярна разлічваюцца". Не тое, што ў іх. Толькі ажно за некалькі месяцаў выдаюць заробленае. Увесь час палонілі яго душу гэтыя зайздросныя думкі.

А што тычыцца "Высокага", то якая ўжо там гэта племянная гаспадарка? Ад таго племя засталося толькі адно семя. Рожкі ды ножкі. І парсючкоў на мясцовай свінаферме, і рагуль у дойным статку. Па ўсім грамадскім пагалоўі жывёлы гэтак скарацілася! Сярэднясутачныя прывагі так знізіліся, бы не бычкоў-адкормкаў, а куранят адкормліваюць. У параўнанні з тымі, што раней былі. Хаця б пры тым жа Тромбіну, ранейшым дырэктару, які аж некалькі ордэнаў паспеў адхапіць, працуюць тут. Ці ж малайчына, Аляксей Цімафеевіч!

"Дажыліся. Разбазарылі. Парасцягнулі. А нехта проста пажывіўся-нажыўся за дзяржаўны кошт. Дошкі, і тыя на нечыя дачы, катэджы ды офісы пайшлі! А новаму кіраўніку племянной гаспадаркі, ды і спецыялістам, дастаецца цяперака як таму беднаму кату ў мяху на раённых нарадах, на якіх гэтак стараюцца даць рады.

"Спачатку, праўда, мелі ласку. Спрыялі. Ставіліся з прыхільнасцю, спагадай і разуменнем. А хіба яго ў тым віна? Сённяшняга дырэктара? У самы корань трэба глядзець. У самы. А гэтага ніхто з начальства і разумець не хоча. Яму толькі прадукцыю давай. І ўсё. Качае свае правы". Час ад часу намаведама чаму апаноўвалі Андрэя гэткія крамольныя думкі.

Старшыня райвыканкама Алёшкін, удакладнім, з нядаўніх пор ужо былы, хоць і даўні дырэктарскі дружбак, але паглядаў апошнім часам на яго ваўком. Сярдзіта, насуплена. Сердаваў. Лаяўся. Казаў аднаго разу прылюдна на раённай нарадзе:

— Не спраўляешся, братка, так пакідай пасаду сам.

Але ж, сам жа не так даўно прапаноўваў, прызначаў, угаворваў... З пасады старшыні сельскага Савета. Ціхай і спакойнай. І, упёр. На, табе, божа, што нікому не гожа.

У саўгас, які зусім абанкруціўся. З пустой казной. Дзе людзі і месяцамі зарплаты не атрымоўвалі. Прывёз, і пакінуў, з праблемамі сам-насам. А падтрымкі — лічы аніякай. А што давалі са сродкаў, то крохі. Ненажэрны рынак, які так жадалі, ўсё адразу пажыраў.

Нават святло ў канторы прыйшлося адключыць па прычыне грашовых даўгоў. Давялося узімку ладнага памерзнуць у стылых кабінетах за казёнымі сталамі, бо ацяпленне было ж ад... электракатла. І самому, і падначаленым.

VI

...Яшчэ калі ляжаў у раённай бальніцы, Андрэю прапаноўвалі схадзіць прапытаць пра трактар у ПМК аблаграпромаўскую. Той тады згодліва матляў галавой, але... бы між вушэй прапускаў прапанову. Так і не ішоў. Ці-то не адважваўся, ці-то быў у яго іншы намер. Усё "моўчкі" думаў пра сваё, набалелае на сэрцы.

"Вунь, хлопцы кажуць, у "Клімаўскім" калгасе ой якія добрыя заробкі! Па мільёну, а то і больш адхопліваюць. Вось бы туды ўладкавацца!", — ужо ў каторы раз летуценна далдоніў часам ён мне ў бальнічнай палаце.

Я ўрэшце-рэшт не вытрымаў і параіў яму, як падлечыцца, падыйсці да мяне на працу. Мо удасца гэту справу з працаўладкаваннем правярнуць, неяк утрэсці. Лідзія Аляксееўна Антосева, адзіная ў раёне на той момант жанчына — старшыня калгаса, якой паапавядаў па тэлефоне пра хлопцаву жыццёвую бяду, аказалася жанчынай чуллівай. Паабяцала дапамагчы з працаўладкаваннем.

Ужо потым, іншы раз бываючы ў гаспадарцы, звычайна не прамінаў папытаць Антосеву: "Ну, як жа там мой хрэснік шчыруе на хлебнай ніве?" І заўсёды чуў у адказ: "Ды мы яго прыстроілі. Пакуль у майстэрні. Слесарам. Няхай хлапец прызвычаіцца на новым месцы".

Праз некалькі месяцаў Андрэй завярнуў прама да мяне ў кабінет. "Што яны плацяць! — адразу ж кінуў з парогу. Капейкі няшчасныя, ды і толькі. Пайду, у горадзе пашукаю работы! "— са скрухай у сэрцы мовіў.

"Дык ты ж сам сюды напрасіўся"... — было хацеў таго адгаворваць, але, перадумаў. Вольнаму, як кажуць, воля! І, сапраўды, ці ж гэта грошы. Нейкія трыста тысяч. Хоць гэта і пазалетась было. Паспрабуй, пражыві зараз на іх. Па сённяшніх цэнах. Тым больш — у горадзе.

Гэта добра шчэ, што сям'і не мае, ды і ў цёткі кватэруе, а не дзе-небудзь у чужых людзей здымае. Пакой, за які ладную капейчыну трэба было выкласці.

*(Працяг будзе.)*

**Василий Котиков**

## На сенокосе

День кошу. Довольный
Я в покос ныряю.
Широко, раздольно!
Я косой махаю!
Не смотрите косо —
Вашу мысль читаю!
На волне покоса
В детство уплываю.

## Три радуги

Три радуги. Вот это класс!
Я видел только что сейчас...
Кому бы ни сказал об этом —
Все говорят, что я с приветом...
Три радуги? Да как, откуда?
Такого не бывает чуда...
Одну... Ну две — туда-сюда.
А чтобы три? — Ну никогда!
Друзья мои, я не соврал.
Две — в небе радуги видал,
Поклясться чем хотишь готов.
А на лужайке — из цветов!

## Аня, прости

Супруга, милая, прости...
Не знаю, что со мною.
Люблю по улице пройти
С красавицей — луною.
Я весь от счастия цвету
(Любовь дает мне жару!)
Всем кажется — один иду...
А я иду напару!



*Парэчкі чорныя.*
**Фота Валерыя БЫСАВА.**

**Сергей НЕРОВНЫЙ**

## Попутчики

Попутчики мои —
печаль да скука —
Давно перелистали календарь
И потому полуденного круга
Коснулся верноподданный
февраль.
Попутчики мои —
шальные ветры —
Доставили ненужное тепло,
Мне под ноги —
тревоги километры.
Огонь в глаза и под язык стекло.
Попутчики мои — слепые стаи —
Торопятся, крикливые, назад,
Крылом задев подобие печали,
Они на север скоро пролетят.
Попутчики мои — речные плесы —
Давно уже не радуют мой взор.
И, как всегда,
безвременные слезы
Мешают завершить мне разговор.
Попутчики — манящие гетеры,
О вас мне невозможно забывать,
Когда без сожаления и веры
Ложусь я в растеленную кровать.
Попутчики... Душа моя не хочет
Без вас в пространство
вечное шагать.
Дороги с вами в тыщу раз
короче,
И легче правду жизни постигать.

**Григорий ЛАЗУРКИН**

## Рыночные страдания

*(Частушки)*

Мазь старик в аптеках ищет
На затылке смазать прыщик,
Как узнал цену на мазь —
Помянул чужую мать.
Ты, дедусь, не матерись,
А мочой давай лечись!
Состязанья красоты
Повсеместны и просты.
Детки в яслях не играли,
А красавиц выбирали,
И для самой милой "мисс"
Было звание "Мисс пис-с"!
Бабка старая Глафира
Понесла от бригадира,
Не волнуйтесь, не ребенка,
А с полпуда поросенка —
Бартер-счет за первача:
Самогонка — не моча!

# ШВЕЦЫЯ ВАЧЫМА БЕЛАРУСА

## Мы — на каралеўскай плошчы!

Мы крочым па галоўнай вуліцы горада — вуліцы Каралевы. А вось і плошча Густава Адольфа III. Караля краіны пачатку семнаццатага стагоддзя. Даведваемся, што гэта менавіта ён ператварыў некалі Швецыю ў квітнеючую дзяржаву. Пасля трыццацігадовай вайны ў Германіі, якая закончылася 350 год таму назад.

У той час Швецыя была буйной каралеўскай краінай-манархіяй. У яе ўваходзілі сённяшнія тэрыторыі Фінляндыі, Прыбалтыкі, поўнач Германіі (Памеранія). Канец імперыі паклаў кароль Карл XII, войскі якога былі разбіты пад Палтавай. У 1809 годзе ад тагачаснай Швецыі адыйшла Фінляндыя.

Каралеўская плошча не такая ўжо і вялікая. У цэнтры яе ўзвышаецца помнік каралю Густаву. Праходзім міма будынку Міністэрства замежных спраў. Ён размешчаны якраз насупраць каралеўскага замка.

Сам замак налічвае ажно 780 пакояў! У ім працуюць кароль з каралевай. Там яны прымаюць гасцей, кіраўнікоў замежных дзяржаў, узнагароджваюць лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі, сума якой, дарэчы, у 1997 годзе склала 7 мільёнаў 600 тысяч швецкіх крон. У пераводзе на даляры — больш мільёна даляраў.

Дзве кроны ў месяц кожная швецкая сям'я пералічвае на ўтрыманне каралеўскага двара. Так назбіраецца шаснаццаць мільёнаў крон у год, што раўняецца крыху больш, чым дзвюм Нобелеўскім прэміям (заўвага аўтара).

У канцы 1997 года ў Швецыі з афіцыйным візітам знаходзіўся прэзідэнт Расіі Б.М.Ельцын. Таму праход па каралеўскай плошчы быў часова абмежаваны, што стварала пэўныя нязручнасці для гараджан. Паліцэйскія з аўтаматамі дзяжурылі нават на дахах будынкаў. Так усе былі вельмі рады, калі нарэшце ён паехаў, прызнавалася перакладчыца.

Брук плошчы вымашчаны камянямі. Як некалі ў нашым райцэнтры дарога па цэнтральнай вуліцы. Гэта ўжо на маёй памяці. Побач знаходзіцца возера. Вада з яго па каналу, які нагадвае ладную рачулку, трапляе ў Балтыйскае мора. Тут жа, паблізу каралеўскай плошчы, з другога боку Міністэрства замежных спраў, аказваецца, жыве прэм'ер-міністр.

— Як бачыце, аховы няма, але трапіць туды цяжка, — падмячае як мы заўважылі ўсё ведаючая Кірсці.

## Парламент: швецкі вырыянт

— А вось у гэтым будынку размешчаны наш парламент, — кажа перакладчыца, падводзячы ўжо нас да двух масіўных будынін з двума ўваходнымі вялізнымі аркамі. Гэтаксама з каменя, размешчаных адна насупраць другой.

Пабудаваны яны былі яшчэ ў 1904 годзе, а ўжо на наступны год заселены. З верасня і да пачатку чэрвеня там засядаюць парламентарыі. Па колькасці ў ім больш прадстаўлена сацыял-дэмакратаў. Потым ідуць кансерватары. Затым — левыя камуністы.

Даведваемся, што сорак чатыры працэнты дэпутатаў швецкага парламента — жанчыны! Гэта амаль палова ўсіх, і для нас нова! Дарэчы, у гэтай краіне жанчыны займаюць многія міністэрскія крэслы. Нават пост міністра юстыцыі. У нас жа, чамусьці, не вельмі давяраюць жанчынам кіруючыя пасады. Можа таму мы так небагата жывём? Значна горш, чым тыя шведы, якіх адолелі яшчэ ў далёкім мінулым пад Палтавай.

Дзень быў выхадны, і народ проста павысыпаў адпачываць на вуліцы Стакгольма. Людзей было бачна паўсюды. Яны крочылі туды-сюды, але кожны па сваёй справа. Заўважылі, што каля будынку парламента два паўднёваамерыканцы гралі на музычных інструментах і такім чынам зараблялі сабе на пражыццё.

У гэты самы момант высока ў небе праляцеў пасажырскі самалёт. Яго малюсенькі сілуэт яскрава быў бачны у блакітнай вышызне паднябесся. Міжволі падумалася: вось гэтак жа страшэнна высока прадстаіць і нам заўтра раненька ляцець дахаты.

Праходзім з другога боку будынку парламента і добра бачым у самым версе надбудову. Там, аказваецца, і засядаюць дэпутаты. Удалечыні красуецца гарадская рашута з пазалочаным купалам. Насупраць парламента — пяціпавярховы інтэрнат для дэпутатаў. Тут жа непадалёку размешчаны і Вярхоўны суд краіны, будынак якога раней быў прыватным дварцом.

Неяк сама па сабе заходзіць гаворка з перакладчыцай пра аўто. Мо таму, што дарогу нам перагарадзілі імклівыя іншамаркі. Аказваецца, "Вольва" — самая папулярная аўтамашына ў Швецыі! Тут лічаць яе надзвычай сямейнай. Дзелавыя людзі выбіраюць "Сааб", "Форд", "Фальксфаген" таксама ў пашане. Многія і яму аддаюць перавагу.

## Якая яна, швецкая сям'я?

Стакгольм — горад маладзетны! Нараджальнасць — жахліва нізкая! Так даслоўна і сказала Кірсці. У большай палове жыхароў сталіцы ў сям'і налічваецца ўсяго... адзін чалавек.

Усё гэта адбываецца таму, што эканамічная сітуацыя краіны такая. "Выхаванне дзяцей — страшэнна дарагое задавальненне", — зноў тлумачыць перакладчыца. Але нам і так ўсё гэта добра зразумела па той сітуацыі з сямейным бюджэтам, якая склалася ў пераважнай большасці нашых суграмадзян, якія выхоўваюць дзяцей.

Адыходзім ад будынку Вярхоўнага суда і тут жа аказваемся каля дома Галоўнага дварэцкага сходу. У сярэдзіне 17 стагоддзя ў швецкім парламенце былі прадстаўлены чатыры сасловы. Тады ж існавалі дзве палаты. Пасля аднапалатачным стаў парламент. І зараз у краіне з таго далёкага мінулага часу захавалася аж некалькі соцен дваранскіх сем'яў. Ёсць і графы, і бароны.

У сярэдзіне таго ж 17 стагоддзя і быў пабудаваны будынак Галоўнага дварэцкага сходу. Каля яго стаіць помнік Густаву Вазе — заснавальніку каралеўскай дынастыі. Гэта менавіта ён у 1521 годзе выгнаў датчан з краіны і стаў першым каралём Швецыі.

Тут варта прыгадаць, што войны з Даніяй былі шматлікімі. Пасля вайны 1645-48 гадоў шведы забралі яе паўднёвыя тэрыторыі. Пасля Густава каралеўскую карону перадавалі каму ўздумаецца. Бо так прымушала само жыццё. У караля Карла XIII, напрыклад, не было дзяцей, і ён усынавіў чужое дзіцяці.

Зараз у краіне правіць кароль Карл XVI Густаў. Яму — 52 гады. У Швецыі прынята, што наследуе карону першае дзіцяці. Таму наступны кандыдат на пост — прынцэса Вікторыя. Ёй — 21 год. Яна займаецца ва ўніверсітэце ў ЗША. У тым самым, у якім некалі вучыўся і Біл Клінтан — сённяшні прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі.

— А вось гэта — магільны склеп нашых каралёў, — кажа перакладчыца Кірсці, калі мы перакрочылі па мосціку аўтамагістраль і падыйшлі да яшчэ адной шарападобнай забудовы.

У самым вялікім магільным склепе пахаваны кароль Карл XII. Пасля паражэння пад Палтавай ён пражыў усяго пяць гадоў і вярнуўся спачатку не ў Стакгольм, а адправіўся ў Нарвегію, каб яе заваяваць. Але быў там забіты ў 1718 годзе. Дарэчы, з часоў Аляксандра Неўскага Швецыя безліч разоў ваявала і толькі пасля апошняга разгрому супакоілася.

Сам горад Стакгольм быў заснаваны ў сярэдзіне трынаццатага стагоддзя. У 1252 годзе стаў сталіцай. У сярэдзіне семнаццатага стагоддзя ў ім жылі багатыя дваране. Таму будавалася вельмі шмат новых будынкаў, асабліва вялікіх дварцоў. Тут жыў і граф Густаў Врангель, які ад каралевы Крысціны атрымаў участак зямлі. Між іншым, мяцежны царскі генерал Врангель — яго нашчадак.

Па брукаванай дарозе спускаемся пешку да самага нізу сталічнага возера. Таму ёсць час і для размоў на адвольную тэму.

Кірсці на хаду параўноўвае суседнія народы. Кажа, што ў фінаў — прамы характар. А вось шведы, перш чым што зрабіць, яшчэ падумаюць.

А ўвогуле, гэта даволі сімпатычныя людзі. У чым мы самі пераканаліся пасля таго, як горача нас ўсіх абдымала на развітанне дачка журналіста Сігварда Петтерсана з Ліндсберга і сама журналістка Ульрыка Стотзер, калі мы пабывалі ў гасцях у яе бацькоў.

Толькі вось пазнаёміцца з імі даволі цяжка. Яны кажуць так: мой дом — мая крэпасць! І незнаёмых людзей у свае кватэры не ўпускаюць. Нават тых, хто прыходзіць у госці, пакуль не спазнаюць чалавека. Вось так! Што ж, нашым даверлівым грамадзянам гэтаму варта было б павучыцца, перш чым адчыняць дзверы сваіх дамоўладанняў розным злачынцам-рабаўнікам.

## ...І нават лазня на вадзе

Нарэшце падыходзім да прыступак, якія абсталяваны аж да самае вады возера. На іх можна ў спакоі і цішы пасядзець, адпачыць з дарогі, што мы з задавальненнем і робім, бо адчуваем ужо стому. Гутарым, маўчым, адпачываем. Каля нашых ног плёскаецца вадзічка Балтыкі. Перад намі ва ўсёй сваёй красе паўстае азёрная прыгажосць.

Побач групкамі, а то і ў адзіночку, з сябрамі і там-сям, месцічы шведы. Адпачываюць. Хто перакусвае. На нас з цікаўнасцю пазіраюць. Нехта на аўто прыехаў. Нехта пешку дабраўся. Трапляюцца і дзіцячыя каляскі з малышамі. А кажуць яшчэ, што малая нараджальнасць! Хіба што сціплымі людзьмі, відаць, хочуць здацца.

Даведваемся, што на адным з берагоў возера месціцца ратуша, у якой праходзяць банкеты для Нобелеўскіх лаўрэатаў. На возеры знайшлі сабе прапіску шматлікія кватэрныя караблі з офісамі. Ёсць і жылыя яхты, катэры, лодкі. І іх нямала.

Глядзім, прышвартаваўся да берага невялікі караблік. Відаць, турыстычны. Неўзабаве праплыла міма нас лазня на вадзе. Разпораз курсіравалі ад аднаго берага да другога катэры, яхты, лодкі...

Шведы культурна праводзілі на ўлонні прыроды свой вольны ад работы час. Балазе, непадалёку ад нас, дзе мы спыніліся, было абсталявана нешта накшталт павільёнчыка, дзе адпачываючыя мелі магчымасць падсілкавацца.

Стаяла цёплае лагоднае восеньскае надвор'е. Надыходзіла ж бабіна лета. Даведваемся, што паблізу возера размешчаны самы вялікі ў краіне піваварны завод. І пра тое, што ў 1981 годзе швецкі кароль сказаў, што дрэнна мець кантору дома, а лепш каб быў для пражыцця асобны жылы дом. Пагэтаму цяпер жыве асобна ад каралеўскага замка, на востраве.

І, што цікава, кароль любіць самастойна ездзіць на аўтамабіле. Сам знаходзіцца за рулём па дарозе з замку дадому. Пра што не скажаш аб пераважнай большасці нашых начальнікаў. Ледзь не ў кожнага — свой асабісты вадзіцель.

## Краіна бежанцаў?

Стакгольм — самы вялікі горад краіны. Ён налічвае 1 мільён 700 тысяч жыхароў. Другі па велічыне — 500-тысячны Гетэборг і трэці — Малме, у якім пражываюць 230 тысяч. Упсала займае чацвёрты радок у рангу пражываючага насельніцтва, ненамнога ўступаючы Малме.

У краіне — моцныя дэмакратычныя традыцыі і змяніць іх — нялёгка. Скандынавія — адна з багатых частак свету. Ёсць і свая нафта на яе тэрыторыі. Скандынаўскія народы трывала звязаны паміж сабой. У Даніі, Швецыі і Фінляндыі — аднолькавыя цэны, заработная плата, падаткі. Чым не прыклад для беларуска-рускіх адносінаў?

Што тычыцца суседкі праз мора — Германіі, то цэны і падаткі там ніжэй, чым у Швецыі, але там беспрацоўе. І калі немцы не вырашаць гэтае пытанне, то ў ЕС з цягам часу могуць узнікнуць праблемы. І такое меркаванне нам давялося пачуць. Журналісты ж — народ цікаўны.

Але хапае праблем і ў самой Швецыі. Не ўсё, аказваецца, так добра і гладка. Так, 450 квадратных кіламетраў займае краіна. А пражывае на гэтай тэрыторыі ўсяго меней за дзевяць мільёнаў чалавек.

Ці не таму, а відаць хутчэй па прычыне прытрымлівання краінай канонаў дэмакратыі, у апошні час сюды зачасцілі бежанцы з небяспечных куткоў свету. Эмігрантаў стала столькі, што ўлады ўсур'ёз занепакоены. Вырашылі адпраўляць тых нават дадому. Вядома, калі наступіць спакой у іх краінах. Таму сёння бежанцы, што прыехалі сюды з Югаславіі, атрымоўваюць часовы від на жыхарства. Але дапамогу ім дзяржава ўсё адно аказвае.

Мы ідзем да галоўнай плошчы горада. Па дарозе заварочваем у бліжэйшую станцыю метро. Такое ж, аказваецца, як і ў нас у Мінску. Музыка грае, збіраючы па кроне на пражыццё. Пасажыры грошы кідаюць прама ў футляр музычнага інструмента. Там ужо месцілася некалькі манетак. Тут жа даведваемся, што ў сталіцы ёсць і дзе пераначаваць бяздомнаму чалавеку. Так называемыя начлежкі.

## У старым горадзе

І вось урэшце мы — на галоўнай плошчы аднаго з чатырох востраваў горада. На ім пражываюць тры тысячы чалавек. Ён адрозніваецца ад іншых сваёй архітэктурай. У мінулым тут надарыўся вялікі пажар і на змену ранейшым з'явіліся новыя забудовы.

Пражываюць на возеры больш адукаваныя людзі, а таму і больш высокія даходы яны маюць. У нас жа, наадварот, больш зарабляюць начальства і рабочыя на буйных прадпрыемствах, камерсанты-прадпрымальнікі ды банкаўскія работнікі, якія нічога не вытвараюць, а толькі тыя народныя грошы пералічваюць ды прыкручваюць сабе на працэнты прыбытку, несвоечасова выдаючы зарплату, ад чаго і маюць ладную капейчыну. А не высокаадукаваныя настаўнікі, урачы, работнікі культуры і журналісты таксама.

Самі па сабе цікавыя ў старым Стакгольме назвы вуліц. Вялікая новая вуліца. Вялікая маленькая вуліца. Ёсць нават нямецкая царква, бо ў свой час тут адчуваўся моцны нямецкі ўплыў купцоў, што прыплывалі сюды з Нямеччыны.

Дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што гарадскі план сталіцы як і нямецкага горада Любека, з адкуль родам былі купцы, — аднолькавы.

Ёсць нават нямецкі завулак. І нават можна пачуць рускую мову на гэтых старажытных вузенькіх вулачках, што надта здзівіла аднаго з нашых калег, Фёдара Шумко, намесніка рэдактара Столінскай раённай газеты "Навіны Палесся".

Праходы вулачак — такія вузенькія! Чаму мы адразу ж здзіўляемся. Але, аказваецца, ёсць і яшчэ вузейшыя, ажно па 2,5-3 метры. Вось на адной з такіх вузенькіх вулачак заўважаем рэстаран, які як высветлілася, прыдбалі... мясцовыя камуністы. І там, аказваецца, трэба нешта прадпрымаць, каб выжываць.

Жыллё ў гэтым раёне сталіцы стала вельмі дарагое. Дамы адносяцца да часоў шаснаццатага стагоддзя. Спачатку мелі два паверхі. Пасля — дабудоўваліся. Жылля востра нехапала, таму будавалі яго нават над вулачкамі, у чым мы мелі магчымасць пераканацца. Тут, на набярэжнай, і на берагах возера, раней жылі багатыя купцы і рамеснікі. А самыя ж багатыя людзі — у цэнтры Стакгольма.

Крочым па турэмнаму завулку, які выводзіць нас на вялікую плошчу. Вялікую, відаць, па памерах шведаў. Ажыўлёнае месца тут некалі было, кажа перакладчыца. А яно і зараз, праз стагоддзі, такое! Мо таму, што была субота? Час блізіўся да вечара. І народ масава адпачываў, весяліўся.

## Нас вітае мэр горада!

Шматлюдна было ў той дзень на плошчы. Нават нейкае тэатралізаванае прадстаўленне ладзілася. Можна было нават пабачыць сапраўднага рыцара ў даспехах і сфатаграфавацца з ім на памяць. Што і зрабілі мае калегі, скарыстаўшы такую добрую магчымасць. І я, урэшце-рэшт, пачынаю шкадаваць, што мой фотаапарат мяне на гэты раз падвёў. Зусім не пакінуў здымкаў аб швецкай сталіцы.

Аказваецца, гэта былы цэнтр Стакгольма. А зараз — любімае месца адпачынку гараджан. Наўкола вітала святочная абстаноўка. Працаваў гандаль, даносіўся пах кавы, якая паспела нам парадкам абрыдці за ўсяго некалькі праведзеных у краіне дзён. Той стаяў у паветры і ўсё кружыў галаву, бо мы толькі раніцай паснедалі задарма, а ўжо быў амаль вечар.

(Заканчэнне на 4-й стар.)



*Ромашки.*

Фото Валерия БЫСОВА.

# ШВЕЦЫЯ ВАЧЫМА БЕЛАРУСА

— Калі ласка ў Стакгольм! — гучна кажа нам нейкі высокі мажны мужчына, якога мы спаткалі на былой галоўнай плошчы горада. — Супрацоўніцтва паміж Швецыяй і Беларуссю вельмі патрэбна і адыгрывае вялікую ролю!

Аказваецца, гэта мэр горада Інгемар Інгевік, які адпачываў разам з гараджанамі, перакінуўся некалькімі словамі з перакладчыцай Кірсці і вырашыў нас павітаць. Ён падкрэслівае, што мы знаходзімся ў руках надзейнай перакладчыцы. Гэта пахвальна было чуць. Высветлілася, што яны, добра знаёмыя.

У вузенькім завулку месціцца шыльдачка з указаннем 1919 года. Гэтае месца ў дворыку дамоў, больш падобных на нашыя хрушчоўкі, лічыцца ў горадзе свяшчэнным і на ім наведвальнікі пакідаюць манеткі. Кажуць, на шчасце. І сюды нас прывяла Кірсці. Яна стараецца пабольш чаго нам паказаць за дзве гадзіны сваёй кароткай агляднай пешаходнай экскурсіі па старым горадзе.

А зараз мы ўжо знаходзімся на дварцовай горцы, дзе галоўны ўваход у каралеўскі дварэц, які, як сцвярджаюць, падобны на Трыумфальную арку ў Парыжы. Каля ўваходу на ганаровай вахце салдат з аўтаматам ва ўсім белым — касцы, ботах, рукавіцах і рамяні. Гэтая вайсковая форма надае абстаноўцы нейкую святочнасць, урачыстасць і каларыт.

Ахову тут нясуць звычайна салдаты тэрміновай службы. Па некалькі гадзін круглыя суткі. Ахоўваюць каралеўскі дварэц, плошча якога забрукавана камянямі.

Побач — нацыянальны мастацкі музей горада, у якім знаходзіцца, дарэчы, вялікі збор рускіх ікон. Тут жа і каталіцкая царква, якая стала ўжо лютаранскай.

### *І крочым мы, бы каралеўскія асобы*

— Стакгольм — гэта горад самай вялікай культуры! — гэтак з гонарам мовіла наша спадарожніца Кірсці.

Усюды — чысціня і парадак. Смецця ніякага і ў паміне няма. Не тое, што ў нашых гарадах і вёсках! А можа яна, гэтая рыжавалосая шведка, мела на ўвазе наяўнасць у горадзе шматлікіх помнікаў культуры, архітэктуры, гісторыі... Хто ведае? Мо тое і другое разам? Толькі на астравах Стакгольма — звыш сарака музеяў!

Нават грант-атэль ёсць, у якім жывуць, калі прыязджаюць, лаўрэаты Нобелеўскай прэміі і пражываў прэзідэнт Расіі Б.М.Ельцын, калі наведваў краіну. У Швецыі даўно, ажно з 21 года, адменена смяротнае пакаранне. "Чым больш культуры, тым менш жорсткасці", — лічуць шведы.

Праходзім міма помніка каралю Карлу дванаццатаму. На ім высіцца ваяр з шашкай у руках.

— Ён паказвае на ўсход. Туды, дзе Расія. Відаць, папярэдзіць хоча, што туды соваецца нельга з дрэннымі намерамі. Там небяспека падсцерагае, памятаючы былыя няўдалыя ваенныя паходы, — ці-то жартам, ці-то ўсур'ёз кажа Кірсці.

І мы яе разумеем. Задумваемся над нашай сумеснай гісторыяй, праходзячы паблізу канала возера і гледзячы ў ваду. Даўно гэта было. Даўно. І ў мінулае сплыло. А памяць засталася. Няхай і такая.

Глядзім — далёка ў канал возера забраўся рыбак. Відаць, заўзятар. І ловіць сабе спакойненька рыбку ў самым цэнтры Стакгольма. Хаця рыбакоў з вудамі мы заўважалі і дагэтуль, але ўжо на высокім бетанаваным беразе гэтага канала. Відаць, ім шчасціць з уловам, бо дарэмна людзі час не бавілі б.

З далёкага мінулага захаваўся і парк, які ў даўніну быў даступны толькі для каралеўскіх асоб. А цяпер вось мы, беларускія журналісты, як і ўсе гараджане, бы тыя каралеўскія асобы, спакойненька праходжваемся па адной з яго былых сцяжын, якая стала цяпер даволі прасторнай. Нават на аўто можна праехаць.

Прыслуга ў парку вырошчвала агародніну для каралеўскай сям'і. Але калі сюды прыязджаў маршал Напалеон, то тут па пляцы маршыравалі салдаты. Пасля ізноў размясцілі агарод.

І зараз па парку можна прайсціся ўсім жадаючым, не тое, што раней, толькі каралеўскай знаці ды вяльможам. А дзеткам нават пакатацца на ролікавых каньках. Цяпер парк — са шматлікімі маленькімі кафэ-кіёскамі і... начным клубам. Якія літаральна паабступілі яго. А аб ім самім хіба што нагадваюць толькі высокія дрэвы, якія павыстраіліся ў рад, бо так былі пасаджаны, і вялікія кусты акацый, лаўкі для адпачынку ды фантаны.

### *У Швецыі дзяржаўная яма*

Нарэшце мы ў дзелавым цэнтры горада. Паўсюль забудовы. У цэнтры Стакгольма бы ўтварылася яміна. Такое ўражанне склалася таму, што над магістраллю ўзвышаецца мост, а пад ім — гандлёвы цэнтр. Шведы жартуюць над гэтым месцам. Кажуць што, яно — гэта дзяржаўная яма. Бо і сапраўды грошы трацяцца, бы ў яміну ідуць.

А гэта азначае, што яны — людзі з гумарам. А яшчэ — міласэрныя. Вось узяла адна сям'я з горада Ліндэсберга, дзе мы і праходзілі стажыроўкувучобу ў мясцовай газеце "Бергслагспостен", ды ўсынавіла хлопчыка па імені Эліяс з Беларусі, ад якога адмовілася маці ў адным з раддомаў Магілёва.

Аказваецца, што цэны не ва ўсіх магазінах і ўнівермагах сталіцы аднолькавыя. І мы па заканчэнні экскурсіі кідаемся ў гандлёвыя цэнтры, катаючыся па пад'ёмніках на гандлёвыя этажы. Такіх жа самых, што і ў мінскім метро. Дзе не дзіўна і згубіцца, ў людскім патоку, адстаць ад іншых сваіх калег. Таму наша група ўмомант рассейваецца прама на вачах.

Але, што купіш, калі ў кішэнях сэканомленых на харчаванні шведскіх крон небагата. Хіба што нейкі паметны сувенір альбо адну добрую рэч яшчэ можна было прыдбаць. Нам выдалі гасцінныя шведы грошы толькі на харчаванне ў абед і вечарам. А раніцой кармілі ўжо бясплатна. Ды і цэны тут ў некалькі разоў даражэйшыя за нашы. І таму лагічней тое ж самае значна танней набыць у Беларусі.

І мы кіруем зноў да цэнтральнага аўтавакзала, які па шведскаму гучыць «цэнтрал сташун». Вечарэе. Трэба ехаць у гасцініцу аэрапарта. А назаўтра ўжо ў 6 гадзін 05 хвілін раніцы — рэгістрацыя ў аэрапорце і пералёт дамоў.

### *Бывай, радзіма каралёў!*

Бывай, багатая дэмакратычная Швецыя! Радзіма каралёў і даўніны далёкай! Якая свой пачатак бярэ ад старажытных плямёнаў свеяў. Адсюль і архаічная назва краіны — Svealand. Краіна, трыста год не ведаючая войнаў. Мо, таму яна і багатая?

Бо тут атрымоўваюць на палетках 60-цэнтнеравыя ўраджаі зернавых культур з кожнага гектара! Васьмітысячныя надоі малака ад кожнай каровы! Чаму дзівіліся фермеры з Міншчыны, якія таксама прыкладна ў той жа час наведалі далёкую Швецыю. І гэта пры маючых тут у сельскай гаспадарцы старых будынках і памяшканнях, але на сучаснай новай тэхніцы. Што значыць замежны прагрэс і найноўшыя тэхналогіі гадоўлі жывёлы і вырошчвання культур!

Вечарам, а назаўтра рана-раненька, падсілкаваліся як мае быць у сталовай гасцініцы аэрапарта. Балазе, есці дазвалялася колькі хочаш. І, у дарогу, у самалёт, дзе нас чакаў пералёт. А там — яшчэ два абеды. У першым і другім авіялайнерах. Так што цікавым і смачным аказалася наша падарожжа-вучоба!

**1998 г.**

● *Зеленая аптека*

## АИР

В медицине для лечения заболеваний системы пищеварения применяется корневище аира болотного. Оно входит в состав противоязвенных препаратов викалина и викаира. Эфирное масло — составная часть препарата "Олиментина", применяемого при мочекаменной и желчнокаменной болезнях.

Больным гастритами, как с повышенной, так и с пониженной кислотностью желудочного сока готовят отвар. 10 граммов мелко измельченного корня аира в эмалированной посуде заливают 200 мл горячей воды (кипяченой). Ставят ее в кипящую водяную баню на 20 минут. Остужая, настаивают еще 40 минут. Процеживают. Добавляют кипяченую воду до первоначального объема. Пьют в теплом виде по 1/3 стакана 3-4 раза в день перед едой или запивают пищу. Курс лечения — до 6 недель. Такой же отвар принимают при холециститах, холангитах, желчнокаменной болезни.

При заболеваниях кишечника аир готовят на рисовом отваре: 1-2 столовые ложки промытого риса и 10 граммов измельченных корневищ аира заливают полутора-двумя стаканами воды, кипятят 20 минут, процеживают и пьют в теплом виде 3-4 раза в день по 1/2 стакана вместо еды в течение 1-2 дней.

Для полоскания при ангине, острых респираторных заболеваниях, детских инфекциях, хроническом тонзиллите, фарингите, стоматитах, пародонтозе готовят смесь из равных частей корневищ аира и дубовой коры. 2 столовые ложки смеси заливают литром горячей воды. Кипятят 15 минут. Добавляют по столовой ложке листьев крапивы и шалфея, настаивают 20 минут. Процеживают.

При этих же заболеваниях помогают засахаренные корни. Варят сироп как для варенья. Корни режут на отрезки по 3-4 см. На концах делают крестообразные разрезы. Опускают в кипящий сахарный сироп, кипятят 4-5 минут, оставляют в нем на 10-12 часов. Снова дают закипеть. Затем дают стечь сиропу. Сушат как цукаты. Это средство использовалось на Руси в прошлые века как обеззараживающее при эпидемиях инфекционных заболеваний.

● *Куток гаспадыні*

## Холодник по-белорусски

Мелко нарежьте перебранный и промытый щавель, залейте кипятком или бульоном и варите 5-7 минут. Разотрите с солью мелко нарезанный зеленый лук, нарежьте огурцы, белок крутых яиц (желток разотрите). Все это положите в охлажденный отвар и перемешайте. Перед подачей на стол добавьте соль, сахар, сметану, укроп.

*На 500 г щавеля: 2 огурца, 50 г зеленого лука, 2 яйца. Сметана, соль, сахар, уксус, укроп — по вкусу.*

## Холодник по-мински

Перебранный и нарезанный щавель сварите в подсоленной воде, охладите. Отдельно сварите свеклу (целиком) с добавлением уксуса. Полученный отвар охладите и процедите через сито или салфетку, а свеклу почистите и нашинкуйте.

В охлажденный отвар со щавелем положите измельченный и растертый с солью и яичными желтками зеленый лук, нашинкованные свежие огурцы, свеклу, добавьте свекольный отвар, белок, сахар, взбитый кондитерским венчиком кефир.

*700 г щавеля, 400 г свеклы, 2-3 свежих огурца, яйцо, 12 г зеленого лука, 2 стакана кефира, 2 ст. ложки сметаны, 1 ст. ложку сахара, укроп, соль.*

## Стручковая фасоль с яйцами

Отварите в слегка подсоленной воде 1 кг стручковой фасоли, отцедите, мелко нарежьте и полейте 2-3 ст. ложками масла. Добавьте мелко нарезанную зелень петрушки, размешайте и положите ровным слоем на широкую сковородку. Сделайте углубления в слое фасоли и осторожно влейте в них яйца. Посыпьте черным перцем и полейте жиром. Затем поставьте на медленный огонь и варите до тех пор, пока яйца не загустеют. Подавайте блюдо к столу горячим.

### *Адным сказам*

*Як сведчыць статыстыка, у рэспубліцы 83% сем'яў вырошчваюць бульбу на сваіх зямельных участках.*

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара — 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За даставернасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 31 ліпеня 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 5479 ас. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 30.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**